Ахова птушак Бацькаўшчыны
ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
BirdLife INTERNATIONAL PARTNER
№4(39)2009-1(40)2010

# Сокал-пустальга – птушка 2010 года



Самка сокала-пустальгі. Крыніца www.naturezoom.nl

# АПБ в Копенгагене

С 7 по 19 декабря в Копенгагене проводилась важнейшая в мире конференция ООН по изменению климата, где представители 192 стран обсуждали, какие меры должно принять человечество, чтобы защитить себя от глобального потепления. Данный саммит был призван подписать новое, Копенгагенское, соглашение, которое бы заменило Киотский протокол, принятый в Киото в 1997 году, срок действия которого заканчивается в 2012. Согласно предварительному тексту Рамочной конвенции ООН по изменению климату, который стал основой копенгагенской конференции, страны должны будут не только оплачивать количество парниковых газов, не предусмотренных установленной квотой; они также призваны активизировать действия в области финансирования, передавать технологии и укреплять потенциал, увеличивая объемы международных отчислений «для поддержки мер по предотвращению климатических изменений».







**В центре слева направо участники белорусской делегации Завьялов С.В., начальник специнспекции госконтроля за охраной атмосферного воздуха, и Цалко В.Г., министр природных ресурсов и охраны окружающей среды**

Представители ГА "Ахова птушак Бацькаўшчыны" (Виктор Фенчук и Ирина Войтехович) также принимали участие в Копенгагенском саммите. Главной целью их участия стало представление на официальном сайд-ивенте целей и задач реализуемого в рамках организации международного проекта "Восстановление торфяников Беларуси и применение концепции их устойчивого управления – снижение воздействия на климат с эффектом для экономики и биоразнообразия", чтобы показать, насколько существующая проблема с деградацией торфяных месторождений и связанные с ней выбросы парниковых газов важны как на местном, так и на международном уровне.

**Ирина Войтехович,**
**руководитель проекта**
**Фото автора**
**www.unfccc.int**

# У 2010 год – разам!

**У той час, як па кітайскім календары мінулы год быў годам Быка, для экалагічнай грамадскасці ён прайшоў пад знакам клімату. Кульмінацыйным момантам меўся быць снежаньскі Кліматычны саміт ААН у Капенгагене, на якім планавалася акрэсліць будучыню самага важнага кліматычнага пагаднення – Кіёцкага пратакола. Не заставалася ўбаку ад кліматычнай дзейнасці і "Ахова птушак Бацькаўшчыны" (АПБ), працуючы ў кааліцыі шэрагу міжнародных арганізацый па стварэнні механізмаў аднаўлення і захавання балот. Гэтай тэме быў прысвечаны цэлы шэраг публікацый у выданнях АПБ.**

Безумоўна, пытанні змянення клімату і захавання біяразнастайнасці з'яўляюцца ўзаемазвязанымі. І не толькі праз уплыў змены клімату на біяразнастайнасць, але і праз змены ў біяразнастайнасці, якія ўплываюць на клімат. У шэрагу беларускіх экасістэм, якія граюць найбольшую ролю ў кліматычным балансе, асаблівае значэнне адыгрываюць балоты. Таму менавіта дзейнасць па аднаўленні дэградаваных тарфянікаў і была прадстаўлена АПБ на шэрагу мерапрыемстваў Кліматычнага саміта.

На вялікі жаль, Капенгаген не спраўдзіў чаканняў: краіны не змаглі дамовіцца наконт будучыні Кіёцкага пратакола і шэрагу іншых пытанняў. Таму праца на палітычнай арэне працягнецца і ў 2010 годзе. Працягнуцца і актыўныя практычныя дзеянні. У 2010 годзе АПБ будзе ўдзельнічаць у працах па аднаўленні гідралагічнага рэжыму на 10 балотах – як у рамках уласных праектаў, так і супольна з іншымі праектамі і арганізацыямі.

Канечне, у 2009 годзе АПБ жыла не толькі балотамі. Шмат падзей адбылося і ў рэзерваце АПБ і біялагічным заказніку мясцовага значэння "Тураўскае балонне". Падчас адкрыцця фестывалю птушак, што адбыўся ў траўні, быў усталяваны помнік куліку-марадунцы і шэраг інфармацыйных стэндаў. Завершана поўная ачыстка Тураўскага балонне ад хмызнякоў, у выніку чаго звыш 700 пар чайкі-рыбачкі, звычайнай і белашчокай крычак адразу ж пачалі гнездавацца на адным з ачышчаных астравоў.

Спадзяёмся, што Вам спадабаўся новы выгляд інфармацыйнага бюлетэня АПБ, у планах гэтага года таксама змены і ў часопісе "Птушкі і Мы". Змяніў выгляд афіцыйны сайт АПБ **www.ptushki.org**, а дзякуючы намаганням актывістаў, распачаў працу інтэрнэт-партал для аматараў назірання за птушкамі **www.birdwatch.by**.



Актыўна вялася праца па стварэнню сеткі захавальнікаў вакол Тэрыторый, важных для птушак (ТВП), развіццю сеткі аддзяленняў, распаўсюджванню экалагічнай інфармацыі. Пабачыў свет метадычны комплекс "Дзікая прырода Беларусі", поўны камплект матэрыялаў якога атрымалі звыш тысячы школ Беларусі. Увогуле, у мінулым годзе арганізацыя працягвала развівацца дынамічна, а дэталёвая справаздача аб дзейнасці АПБ у 2009 годзе будзе выслана кожнаму сябру.

АПБ уваходзіць у новы год з новым Стратэгічным планам. Выпрацаваны сумесна сябрамі Цэнтральнага Савета, Сакратарыята, кіраўнікамі аддзяленняў і актывістамі АПБ, гэты дакумент акрэслівае асноўныя накірункі дзейнасці арганізацыі на наступныя чатыры гады. У параўнанні з папярэдняй Стратэгіяй, якая дзейнічала ў 2005-2009 гадах, істотна пашырылася колькасць накірункаў, а пастаўленыя амбітныя задачы будуць патрабаваць яшчэ большай актывізацыі дзейнасці. Дадатковую адказнасць накладае і тое, што 2010 год абвешчаны ААН Годам Біяразнастайнасці.

Мы вельмі ўдзячныя ўсім, хто падтрымаў дзейнасць АПБ у 2009 годзе – сябрам, актывістам і проста неабыякавым людзям. Заставаймася разам і ў 2010!

**Віктар Фянчук,**
**дырэктар АПБ**

# Нацыянальная кампанія

## Сокал-пустальга – птушка 2010 года

**Нацыянальная кампанія «Птушка года» праводзіцца з 2000 года грамадскай арганізацыяй «Ахова птушак Бацькаўшчыны» (АПБ), якая з'яўляецца нацыянальным партнёрам глабальнай прыродаахоўнай асацыяцыі BirdLife International. Асноўная мэта кампаніі – падтрыманне грамадскага меркавання аб каштоўнасці біяразнастайнасці, неабходнасці захавання птушак як аднаго з яе унікальных кампанентаў і заахвочванне насельніцтва да актыўнай аховы птушак. Штогод АПБ выбірае від птушак, які мае пэўныя праблемы і патрабуе нашай увагі і дапамогі. У папярэднія гады птушкамі года былі белы бусел, белая пліска, авяльга, дамовы верабей, гарадская ластаўка, барадатая кугакаўка, кнігаўка, звычайны салавей, вялікая белая чапля, шэрая гусь. У рамках кампаніі звычайна праводзяцца разнастайныя конкурсы, акцыі і прыродаахоўныя мерапрымствы. Птушкай 2010 года абвешчаны сокал-пустальга.**



Фота В.Пракапчука



Фота А.Мініча



Фота А.Ківачука

### 10 фактаў пра пустальгу:

1. **Сокал-пустальга занесены ў Чырвоную кнігу Рэспублікі Беларусь, Літвы, Латвіі.**
2. **Колькасць пустальгі ў Беларусі – 1200-1700 пар.**
3. **Самы мышаедны дзённы пярнаты драпежнік у Беларусі.**
4. **Самы міралюбівы сокал, час ад часу ўтварае калоніі; у сасновым гаі ваколіц Мачулішч існуе калонія ў 8 пар сокала.**
5. **Падчас палявання завісае ў паветры.**
6. **Не будуе ўласных гнёздаў, а займае старыя гнёзды шэрых варон, крумкачоў, гракоў, а таксама штучныя гняздоўі.**
7. **Пустальга можа гнездавацца і ў гарадах: у Брэсце гняздуецца унікальная урбаністычная папуляцыя – звыш 45 пар.**
8. **Адрозніваецца ад другіх дробных сокалаў рудой афарбоўкай верхняй часткі цела.**
9. **Не аднойчы выбіралася птушкай года ў розных краінах, напрыклад, Расіі, Германіі, Латвіі, Швейцарыі.**
10. **На лаціне дзякуючы гучнаму голасу сокал завецца – Falco tinnunculus, што перакладаецца як гучны, звонкі сокал.**

### Мастацкія конкурсы

Мэта конкурсаў: паказаць прыгажосць сокала-пустальгі, цікавыя асаблівасці жыцця, праблемы і магчымыя шляхі іх вырашэння. Мастацкія работы будуць ацэньвацца ў трох намінацыях.

Лепшы малюнак пустальгі. Для гэтай намінацыі прымаюцца мастацкія работы з выявай пустальгі, якія паказваюць цікавыя паводзіны ці звычкі сокала. У намінацыі "Лепшы прыродаахоўны плакат" будуць ацэньвацца работы, у якіх адлюстроўваюцца праблемы пустальгі і, магчыма, варыянты вырашэння гэтых праблем. Для падрыхтоўкі плакатаў прапаноўваюцца тэмы: праблема недахопу месцаў гнездавання пустальгі, сокалы і лініі электраперадач, праблема адстрэлу драпежных птушак. На плакаце павінен быць тэкставы прызыў. Малюнкі і плакаты прымаюцца ў фармаце не больш як А3 і выкананыя фарбамі ці каляровымі алоўкамі. Лепшы выраб. Конкурсныя работы павінны быць выкананы з гліны, саломкі, паперы; вырабы з пластыліну не прымаюцца.

Конкурс праводзіцца ў два этапы: рэгіянальны (абласны і мінскі гарадскі) і рэспубліканскі. Пры існаванні ў рэгіёне мясцовага аддзялення АПБ, гэтае аддзяленне можа каардынаваць рэгіянальны этап у сваім раёне.

Малюнкі, плакаты і вырабы прымаюцца да 31 мая ў рэгіянальныя каардынацыйныя цэнтры:

- Брэсцкая вобласць: Кіцель Дз.А., Брэсцкі абласны эколага-біялагічны цэнтр навучэнцаў, вул. Ціхая, 4, г. Брэст 224020
- Магілёўская вобласць: Бубнова Ж.А., Цэнтр экалагічнага выхавання, вул.Альхоўская, 2-б, г.Магілёў, 212017
- Гродзенская вобласць: Вінчэўская А.В., Гімназія №1 імя акадэміка Я.С.Карскага, пр-т Я.Купалы, 82 г.Гродна, 230010
- Гомельская вобласць: Паклонская А.І., Дом дзіцячай творчасці, вул.Кірава, 36, г.Тураў, Жыткавіцкі раён, Гомельская вобласць, 247980
- Віцебская вобласць: Сінкевіч І.У., Шумілінскі Цэнтр пазашкольнай работы, вул. Ленінская, 7а, г.п.Шуміліна, 211260
- Мінская вобласць: Паршута А.В., Мядзельская САШ №1 імя У.М.Дубоўкі, вул. Ленінская, 2 г.Мядзел, 222397
- Мінск: Якубоўская С.А., Экалагічная гімназія №19, пр-т Пушкіна, 48 г.Мінск, 220073

Лепшыя работы будуць прадстаўлены на выставах мастацкіх работ у г.Мінску і рэгіёнах.

### Літаратурны конкурс

На конкурс прымаюцца літаратурныя работы аб'ёмам да 3-х старонак, у якіх у мастацкай форме прапануюцца звесткі пра пустальгу і яе прыгоды. Вельмі важна адлюстраваць існуючыя праблемы пустальгі і вытрымаць экалагічныя асаблівасці. Літаратурныя работы могуць быць падрыхтаваныя на беларускай, рускай, англійскай, французскай ці нямецкай мовах. Узроставых абмежаванняў няма. Работы прымаюцца да 31 мая 2010 года ў электронным выглядзе на адрас мясцовага аддзялення ці сакратарыята.

На кожнай конкурснай рабоце павінны быць пазначаныя імя, імя па бацьку, прозвішча, узрост, дакладны адрас і тэлефон аўтара, назва гуртка, адрас, а таксама імя, прозвішча, імя па бацьку кіраўніка гуртка і яго тэлефон, калі аўтар з'яўляецца сябрам якога-небудзь гуртка.

Усе ўдзельнікі конкурсаў атрымаюць сертыфікаты ўдзельніка, а пераможцы – дыпломы і прызы. Работы аўтарам не вяртаюцца. АПБ можа выкарыстоўваць лепшыя работы для публікацыі ў сваіх выданнях з указаннем аўтарства, а мастацкія плакаты таксама выстаўляць на выставах.

### Конкурс на лепшую прыродаахоўную акцыю

На конкурс прымаюцца распрацоўкі мерапрыемстваў, якія павінны ўключаць план, дзеянні, справаздачу, а так сама метадычнае суправаджэнне. Акцыі могуць уключаць экскурсіі, назіранні і падлікі пустальгі, біятэхнічныя і эколага-асветніцкія мерапрыемствы. Распрацоўкі акцый прымаюцца да 15 лістапада 2010 года.

Акрамя прапанаваных конкурсаў, установы адукацыі і культуры, а таксама мясцовыя аддзяленні АПБ могуць праводзіць свае конкурсы па папулярызацыі ведаў пра пустальгу.

У рамках кампаніі АПБ прапануе выявіць даты першых прылётаў пустальгі ў розных рэгіёнах, выявіць месцы гнездавання пустальгі ў гарадах і прыродным асяроддзі, выявіць месцы каланіяльных паселішчаў пустальгі. Калі ў Вас ёсць цікавая інфармацыя па гэтых фактах, паведаміце, калі ласка, у мясцовае аддзяленне або сакратарыят АПБ.

Улічваючы тое, што пустальга не будуе ўласныя гнёзды, можна змайстраваць для яе спецыяльныя гнездавыя скрыні ў гарадах (калі ёсць такая неабходнасць) ці ў прыродзе. Атрымаць інструкцыі па методыцы вырабу і развешвання гнездавых скрынь можна ў сакратарыяце або ў мясцовых аддзяленнях АПБ.

# Пернатый сосед

**А знаете ли вы, уважаемые читатели, какие виды птиц гнездятся в городах? Я думаю, вы назовете мне их немало. Но я хочу вам рассказать об одном "краснокнижнике", который нашел себе пристанище в городе Бресте.**

А знаете ли вы, уважаемые читатели, какие виды птиц гнездятся в городах? Я думаю, вы назовете мне их немало. Но я хочу вам рассказать об одном "краснокнижнике", который нашел себе пристанище в городе Бресте.

Украинцы называют эту птицу "боривитер" (что значит, борется с ветром), старорусское название ее "трясулька" (т.к. она часто зависает в воздухе, трепеща крыльями). Может, кто и догадался, что речь идет о представителе "мелких соколов" – пустельге обыкновенной, чье латинское имя звучит как «звонкий сокол». Да, пустельга гнездится не только в Бресте, она отмечена также и в Гродно, и в Минске. Но по численности популяции аналогов Бресту пока в других городах Беларуси нет.

Уже более двух десятилетий этот сокол гнездится в нашем городе. Впервые гнездящуюся пустельгу обыкновенную в городе отметили Шокало Б.И. и Шокало С.И. в 1984 г. на подвижном грузовом кране. И до лета 2005 г. никто полных учетов данного вида здесь не проводил. И вот я и мои коллеги Минич Александр и Табунов Денис с 08.05.2005 по 20.07.2005 провели широкомасштабный учет пустельги обыкновенной в городе Бресте.

Параллельно учету мы занялись изучением особенностей гнездования данного вида в условиях города, проводили кольцевание птенцов. По итогам учета можно отметить следующее: в г.Бресте в 2005 обитало 36 пар пустельги обыкновенной. Однако были возможны случайные пропуски, поэтому общую численность оцениваем в 36-40 пар. А теперь сравните: в Лондоне, Варшаве – по 100 пар, в Москве – 15-20 пар, в Санкт-Петербурге – 3-5 пар (по Галушину В.Н., 2002 г.).

Учет в городе проводится ежегодно, статистика такова: 2006 – 32 пары, 2007 – 30, 2008 – 38, 2009 – 45 пар.

Было замечено, что пустельга в условиях города гнездится в вентиляционных и декоративных зданий(фото 1). Но наибольший интерес у нас вызвало гнездование пустельги в цветочном ящике (фото 2). Также интересен и факт гнездования данного хищника в одном из искусственных гнездовий, размещенных на одном из брестских общежитий (фото 3).

Проект по сохранению пустельги обыкновенной также поддерживает Брестская районная инспекция по охране растительного и животного мира.

**Кивачук Алексей,**
**фото автора**
**Западно-Полесское региональное отделение**


Фото 1


Фото 2


Фото 3

**Проект по сохранению пустельги в Бресте будет включать в себя следующие мероприятия:**

- Презентации для школьников
- Создание волонтёрской группы по спасению птенцов
- Изготовление ящиков школами
- Развешивание ящиков в Бресте и натуральной среде
- Учет пустельги в городах и за городом
- Подготовка и печать буклетов и объявлений
- Создание CD-диска про пустельгу
- Создание странички по птице года на сайте www.birdwatch.by
- Рассылка с новостями акции
- Работа со СМИ
- Кольцевание
- Охранные обязательства
- Установка веб-камеры
- Малая архитектурная форма (установка в г.Бресте памятника пустельге)
- Сотрудничество с зоопарком

# Живая весна шагает по Европе

**Теплые лучи весеннего солнца согревают все вокруг, даря радость пробуждения живой природы. Весна наступает, и первые вестники весны уже радуют глаза и слух. Весенняя капель, первые подснежники и, конечно, птицы, несущие на крыльях долгожданную весну!**




В этом году мы уже пятый год будем наблюдать за прилетом птиц вместе с любителями природы со всей Европы. В качестве пернатых индикаторов наступления живой весны предложены наиболее хорошо известные в народе птицы: белый аист, деревенская ласточка, кукушка, черный стриж. Увидев впервые одну из предложенных птиц, предлагаем занести свою информацию на сайт www.springalive.net (пожалуйста, обязательно указывайте ваше место жительства). Здесь же на сайте можно посмотреть в каких странах и сколько людей уже наблюдали этих птиц. По мере роста числа наблюдений карта приобретает более насыщенный цвет, свидетельствующий о наступлении живой весны. На сайте предложена информация о миграциях птиц, их особенностях, методические материалы для педагогов.

Главными участниками наблюдений являются педагоги и школьники. Дети наблюдают за птицами вместе с друзьями, родителями и другими родственниками. Для нас важна информация о всех людях, которые увидели пернатых вестников весны. Кроме того, если на территории вашего района работает местное отделение АПБ, укажите его название и все сообщения будут учтены в конкурсе на лучшее отделение АПБ. Напомним, что два года подряд наиболее активным отделением является Мядельское районное. Если нет возможности выйти в Интернет, можно сообщить свои данные по телефону 8(017) 263 06 13 или отправить SMS на короткий номер 0841 прямо с места наблюдений за птицами. Для того, чтобы не забыть даты своих наблюдений, АПБ высылает всем членам организации и членам клубов «Крылатый дозор» памятные закладки на которых можно пометить время и места наблюдений за птицами.

Мы рады вместе с Вами, вместе с наиболее активными жителями различных уголков европейского континента наблюдать за наступлением весны, ЖИВОЙ ВЕСНЫ!

**Руслан Шайкин,**
**специалист по экологическому образованию**

# Птица года 2009: подведение итогов

**«Гуси обладают поистине человеческой способностью испытывать горе, – утверждает Конрад Лоренц, – они в буквальном смысле вешают голову, теряют аппетит и остаются равнодушными ко всем окружающим стимулам... Как и горюющие люди, они часто становятся жертвами несчастных случаев...».**




**К компании воспитанники Солигорского центра детского творчества подготовили глиняные и соломенные поделки, посвященные птице года. Поделки подготовили также воспитанники Шимилинского районного центра внешкольной работы.**




**Монета «Серый гусь – птица 2009 года» продолжает серию монет «Птица года».**

## Обращение к охотникам

К открытию летне-осенней охоты на водно-болотных птиц в Беларуси АПБ обратилась к белорусским охотникам с просьбой не стрелять серых гусей. Обращение было широко освещено в СМИ и опубликовано, в том числе, в газете «Паляўнічы і рыбалоў». Поскольку все гуси очень похожи между собой, был подготовлен мини-определитель гусей в виде открытки. Открытка также позволяла научиться определять гуся-пискульку – глобально-угрожаемый вид, который занесен в Международную Красную книгу и Красную книгу Республики Беларусь. Гусь-пискулька гнездится в тундре и мигрирует через территорию нашей страны в смешанных с другими видами гусей стаях.




Любой охотник, выразивший желание научиться определять гусей, мог получить открытку – мини-определитель. В секретариат АПБ поступило 12 обращений с просьбой выслать открытку. Кроме того, мини-определители были разосланы во все структурные подразделения БООР, Инспекции по охране животного и растительного мира при Президенте РБ и Министерства природных ресурсов и охраны окружающей среды Республики Беларусь. Открытка содержала не только качественные рисунки всех 4 видов гусей, встречающихся на территории Беларуси, но и обращение к охотникам не добывать серого гуся.

## За весну без выстрелов!

22 января 2009 г. АПБ передала обращение к Президенту Республики Беларусь с просьбой содействовать закрытию весенней охоты на водно-болотных птиц. К обращению были приложены подписи 20 тысяч граждан Республики Беларусь, выступающих против весенней охоты на водоплавающих птиц. Среди подписавшихся – известные деятели науки, культуры, а также охотники.

В связи с передачей подписей, в экологическом информационном центре «Эко-Инфо» состоялась пресс-конференция, на которой выступили директор АПБ Виктор Фенчук и ведущий научный сотрудник НПЦ НАН Беларуси по биоресурсам кандидат биологических наук Александр Козулин. Также были высказана позиция Белорусского общества охотников и рыболовов. К сожалению, на сегодняшний день протест против весенней охоты не достиг своего результата. Лишь правила весенней охоты будут пересмотрены. Таким образом, любителям птиц предстоит еще не мало дел по решению данной проблемы.

## Литературный конкурс

На литературный конкурс поступило 109 работ. По условиям конкурса, необходимо было написать письмо-обращение от имени серых гусей к людям, объемом не более одной страницы. Победителем и призерами конкурса стали:

1 место – Людмила Шалафан, СШ №13, г.Борисов

2 место – Яна Филимонова, Негорельская СОШ №1, Дзержинский район

2 место – Анна Дудич, гимназия №1, г.Дзержинск

3 место – Елена Лапковская, Миорская ГОСШ, г.Миоры

3 место – Екатерина Куриленко, Суровенская БШ, Шумилинский район

Литературные работы пронизаны мольбой серых гусей оставить в покое их род, сохранить их дом и прекратить варварскую весеннюю охоту, разбивающую счастливые пары птиц. Лучшие работы, написанные от имени серых гусей, будут переданы для публикации в газетах и журналах к открытию очередного сезона весенней охоты.

## Конкурс художественных плакатов

В рамках конкурса художественных плакатов поступило более 400 работ. Лучшие работы были представлены на выставках в Минске и Турове. В Минске открытие выставки состоялось в кинотеатре «Октябрь» 22 октября. С приветственным словом на открытии выступили Виталий Маратович Коренчук, начальник отдела заповедного дела Минприроды, Алеся Ермоленко, главный специалист Минского городского комитета природных ресурсов и охраны окружающей среды, Елена Садовская, обозреватель журнала «Дикая природа».

Воспитанники Экологической гимназии №19 г. Минска под руководством Светланы Якубовской подготовили и продемонстрировали видеопроект в поддержку акции «Мы за весну без выстрелов». Состоялось награждение призеров городского этапа конкурса. Лучшие работы были отмечены также Минским городским комитетом природных ресурсов и охраны окружающей среды и редакцией журнала «Дикая природа». Более 60 педагогов и школьников присутствовали на открытии. Все желающие смогли поставить подписи за закрытие весенней охоты на водоплавающих птиц в Беларуси. Дети и взрослые с удовольствием попробовали свои силы в изготовлении оригами, сделав бумажных гусей и написав на их крыльях послание людям. Все бумажные гуси будут переданы в органы, которые контролируют ведение охоты в Беларуси.

К окончанию выставки были подведены итоги республиканского этапа конкурса. Победителями и призерами конкурса художественных плакатов стали:

1 место - Маргарита Колосовская, Артем Лапицкий, учащиеся гимназии №10, г.Минск

2 место – Ирина Драница, воспитанница ЭЦДиМ г.Борисов

2 место – Илья Черник, Денис Григоренко, учреждение «Золак», г.Минск

3 место – Артем Дежиц, учащийся гимназии №1, г.Гродно




**Плакат, занявший первое место**

3 место – Анастасия Чикилева, учащаяся гимназии №1, г.Борисов

3 место - Анна Жданько, воспитанница ЦДТ г.Солигорска

Все участники получили сертификаты участников художественного конкурса Национальной кампании «Серый гусь – птица 2009 года».

В рамках кампании выпущена цветная листовка с фото и информацией о серых гусях, наиболее интересными фактами и условиями конкурсов. Листовка выслана во все отделения АПБ, центры внешкольной работы экологического профиля, инспекции природных ресурсов и охраны окружающей среды. Все члены АПБ получили цветную наклейку с птицей года.




Кампания была освещена в журналах: «Экалогія», «Лесавік», «Родная прырода», «Зоожизнь». Редакция журнала «Мир животных» совместно с минской школой №145 провела творческий конкурс «Дом серой гусыни». Серый гусь был в центре внимания передач: «Студия хорошего настроения» (СТВ), детская передача «Своя компания» (Лад), «Открытая площадка» (Белорусское радио), «Мирный разговор» (МИР), «Экологическая площадка» (МИР), «Зялёны калідор» (Р/ст «Столица») и др. Проблемы серых гусей обсуждались в газетах: «Народная газета», «Звязда», «Республика», «Комсомольская правда», «Беларусь сегодня».




Проблемы серых гусей были подняты на республиканском уровне, но работы предстоит еще достаточно много. Хочется надеяться, что со временем белорусские серые гуси будут спокойно жить на необъятных просторах синеокой, устраивать гнезда и выводить птенцов, не боясь попасть под выстрел.

**Руслан Шайкин,**
**специалист по экологическому образованию**

# АПБ супраць браканьераў




Астравецкі раён - месца правядзення акцыі



Тыповая рака ў Астравеўкам раёне, дзе нерасцяцца ласосі

**У лістападзе – снежні 2009 года АПБ ажыццявіла акцыю "Захаванне ласосяў у рэках Беларусі", пра пачатак якой мы пісалі ў папярэднім нумары бюлетэня. Менавіта ў гэты час у кумжы (Salmo trutta trutta), якая заходзіць у Беларусь з Балтыйскага мора, адбываецца нераст. Ёсць спадзяванне, што яшчэ адзін прадстаўнік рода – атлантычны ласось або сёмга (Salmo salar) -- таксама нерасціцца на тэрыторыі нашай краіны ў гэтым годзе. Ласасёвыя рыбы занесены ў Чырвоную кнігу Рэспублікі Беларусь і адзінай ракой, па якой яны дасягаюць нашай краіны з мора, з'яўляецца Вілія па прычыне таго, што на ўсіх астатніх пабудаваны непераадольныя для рыбы плаціны.**

Падчас нерасту ласосі сутыкаюцца з многімі пагрозамі. Адна з іх – браканьерства. Лёгкая здабыча прываблівае ахвотнікаў здалёк. Улічваючы рэдкі статус ласасёвых відаў рыб у Беларусі, такое парушэнне закона ставіць пад пагрозу існаванне з'явы нерасту ў нашай краіне ў будучым. У дадатак, у адрозненні ад ціхаакіянскіх ласосяў, якія нерасцяцца толькі адзін раз, атлантычныя (да якіх адносяцца кумжа і сёмга), могуць нерасціцца некалькі разоў у жыцці, таму для іх важна пасля нерасту вярнуцца ў мора.

Галоўным мерапрыемствам акцыі былі шматлікія выезды валанцёраў для патрулявання рэк. Іх мэтай былоназіранне за рэкамі, дзе адбываецца нераст, каб пры неабходнасці своечасова паведаміць пра злачынства ўпаўнаважаным дзяржаўным службам. Па нашым высновам, найбольш спрыяльным для браканьераў перыядам былі позні вечар і світанне, таму па чарзе валанцёры сачылі за нерасцілішчамі нават у цёмны час сутак. Добраахвотнікі мелі неабходнае абсталяванне: моцныя ліхтары, рацыі,а для больш пільнага высочвання – нават прыборы начнога бачання, якія былі прадастаўлены вытворцам оптыкі ў Беларусі, кампаніяй Yukon Advanced Optics. Праўда, убачыць праз іх браканьераў не давялося, але дзіка напужалі.

За два месяцы было арганізавана сем выездаў валанцёраў на чале з кіраўніком. У агульнай колькасці ў выездах прыняло ўдзел 35 чалавек, якія сачылі за рэкамі 19 дней і 12 начэй. У ліку добраахвотнікаў былі як даўнія сябры АПБ (Белашапка Уладзімір, Жук Юрый, Марынічаў Ягор), так і новыя людзі, якія даведаліся пра акцыю праз Інтэрнэт. Да таго ж, да ўдзелу актыўна далучыліся аматары-рыбаловы, якія аказаліся неабыякавымі да захавання такіх цікавых відаў рыб у Беларусі. Праз пару тыдняў арганізавалася каманда, якая рэгулярна ўдзельнічала ў выездах (Аляксандраў Максім, Бусько Арцём, Грамыка Андрэй, Чыжык Арцём, Усніч Марыя, Буймінава Святлана).

Як высветлілася, наяўнасць незнаёмых людзей каля рэк ужо з'яўляецца папярэджваючым браканьерства фактарам. Былі выпадкі, калі, сустрэўшы нас, падазроныя людзі, якія хадзілі ўздоўж ракі і ўглядаліся ў ваду, сыходзілі. Здаралася бачыць уначы святло ліхтарыкаў, уладальнікі якіх збочвалі ад рэк, заўважыўшы нашы ліхтары. Самае цікавае, што падчас здымкі тэлеперадачы для праграмы "У аб'ектыве натураліста" Гродзенскага тэлебачання быў адзняты сюжэт, як мужчына перасоўваў на рацэ камяні для змены накірунку цэчння вады, каб пасля сабраць на водмелі ручаёвую стронгу. Кінакамеры яго, мабыць, напужалі, бо даваць інтэрв'ю ён не адважыўся. Валанцёрскае патруляванне аказалася істотным фактарам, папярэджваючым браканьерства, а галоўнае – прысутнасць валанцёраў павысіла шансы паспяховага нераста кумжы і яе вяртання ў мора.

Акрамя патрулявання, валанцёры пабывалі амаль на ўсіх рэках, куды заходзяць ласосі – для таго, каб выявіць праблемы і сучасны стан нерасцілішч. На многіх прытоках Віліі даўно пабудаваны плаціны, якія перагароджваюць рэкі і зачыняюць для ласосяў праход да нерасцілішч. На некаторых рэках існуюсь збудаванні і канструкцыі, якія таксама могуць чыніць перашкоду ласосям. Магчыма, у некаторыя вадатокі трапляюць забруджвальнікі, якія з'яўляюцца крыніцай лішняй арганікі і павышэння тэмпературы вады,да чаго ласосі надта адчувальныя. Такія высновы былі зроблены пасля агляду камянёў, пакрытых налётам з багавіння, і паверхні вады, на якой сустракалася пена.



Валанцёр у начным дазоры

**Вольга Лукшыц, каардынатар акцыі, Фота аўтара**

# Единственный в Минске заказник празднует свой 25-летний юбилей

**Первому и единственному заказнику на территории белорусской столицы исполнилось 25 лет. Республиканский заказник «Лебяжий» был образован 27 декабря 1984 года для сохранения ценной природной территории и ее пернатых обитателей.**



Центром заказника является небольшой пруд площадью более 15 га. Возникновение этого небольшого водно-болотного угодья само по себе уникально. Ранее на этом месте велись торфоразработки, затем выработанная территория заполнилась водой, берега поросли тростником и осокой. Свято место пусто не бывает, и водоем на окраине города быстро облюбовали водно-болотные птицы. Среди посетителей пруда оказалась пара крупных белоснежных птиц, что привлекло внимание городских властей. В те годы лебедь-шипун был занесен в Красную книгу Республики Беларусь и только начинал восстанавливать свою численность на территории нашей страны. Фактически, благодаря семье лебедей территория и получила статус заказника.

Однако ценность заказника «Лебяжий» для сохранения птиц не ограничивается сохранением лебедей. В заказнике отмечены более 10 видов птиц, занесенных в Красную книгу Республики Беларусь: серощекая поганка, малая чайка, турухтан и другие.

Несмотря на исключительную природоохранную и эстетическую ценность, у заказника есть проблемы. Располагаясь в границах городской черты, территория, примыкающая к заказнику, обладает высоким градостроительным потенциалом. К югу развивается крупный торговый комплекс «Ждановичи». Территорию заказника ограничивают автомагистрали. Все это представляет значительную угрозу существованию заказника и его обитателям.

К 25-летию заказника АПБ обратилась с предложением посвятить «Лебяжему», его значимости и проблемам, информационные часы в учреждениях образования,. Эта инициатива была поддержана Минским городским комитетом образования. Кроме того, запланированы встречи с застройщиками для обсуждения возможных последствий и влияния строительства на природную территорию.

**Руслан Шайкин, специалист по экологическому образованию**
**Фото Татьяны Романовой**

# АПБ налічвае цяпер 14 аддзяленняў!




У лістападзе 2009 г. было зарэгістравана два новых аддзялення АПБ – Мінскае гарадское і Віцебскае гарадское, якія сталі трынаццатым і чатырнаццатым па ліку адпаведна.

Старшынёй і натхніцелькай стварэння Мінскага аддзялення з'яўляецца Якубоўская Святлана Аляксандраўна, настаўніца англійская мовы гімназіі № 19 з экалагічным ухілам. Акрамя яе ў склад Савета і рэвізійнай камісіі ўвайшлі: Вінчэўскі А.Е., Сычова А.Г., Герасікава А.В., Худзінская Е.Г., Белашапка В.Л., Сергеенка І.А., Давідоўская С.Н., Царук О.Г.

Праз тыдзень пасля стварэння аддзялення ў Мінску гарадское аддзялення было зарэгістравана ў Віцебску. Старшынёй была выбрана Захарава Галіна Анатольеўна, кандыдат біялагічных навук, дацэнт кафедры анатоміі, фізіялогіі і валеалогіі чалавека Віцебскага дзяржаўнага універсітэта (ВГУ) імя П.М. Машэрава. У гэтым жа універсітэце на кафедры экалогіі і аховы прыроды працуе старшыня нашай арганізацыі Іваноўскі Уладзімір Уладзіміравіч. Астатнія члены савета і рэвізійнай камісіі таксама з'яўляюцца супрацоўнікамі ВГУ: Дарафееў А.М., Мержвінскі Л.М., Дарафееў С.М., Бірукоў В.П., Кузьменка В.В., Сушко Г.Г., Лакатко А.А.

Калі Вы зацікаўлены прыняць удзел у дзейнасці дадзеных аддзяленняў, звяжыцеся з старшынямі па наступных тэлефонах:

**Якубоўская Святлана 772-19-69**
**Захарава Галіна 715-00-59**

# Восстановлены два выработанных торфяника в Витебской области



В начале декабря 2009 года в рамках проекта ПРООН и ГЭФ «Ренатурализация и устойчивое управление торфяными болотами для предотвращения деградации земель, изменений климата и обеспечения сохранения глобально значимого биологического разнообразия» завершены работы по восстановлению и стабилизации гидрологического режима выработанного торфяного месторождения «Осиновское-2» (2131 га) в Дубровенском районе Витебской области. Месяцем раньше строительные работы были завершены на месторождении «Осиновское-1» (1189,3 га). Выработанные торфяники стали одиннадцатой и двенадцатой территориями, повторно заболоченными в рамках проекта с 2007 года. АПБ является партнером проекта.

Для того, чтобы повысить и стабилизировать уровень воды на «Осиновском-1», на осушительных каналах построены земляные глухие перемычки двух типов и шандорный затвор; на «Осиновском-2» построены более 40 водорегулирующих сооружений.

По словам А. Козулина, научного координатора проекта, члена Центрального Совета АПБ, ожидается, что в результате работ по повторному заболачиванию на большей части проектных площадей произойдет восстановление болотного ландшафта, возобновятся болотообразовательные процессы, в основе которых лежит появление болотной растительности, торфообразующих растений, активизация лесовозобновительных процессов на возвышенных участках.

– Следствием этого, – продолжает А. Козулин, – станет увеличение видового состава водно-болотных животных и птиц. Обе заболоченные площадки представляют собой места обитания большой группы редких видов птиц, занесенных в Красную книгу Республики Беларусь: обыкновенной пустельги, большой выпи, большого подорлика, черного аиста, скопы, серого журавля и некоторых других.

**Источник www.peatlands.by**
**Фото Анет Тиле**

# Факультативный курс «Дикая природа Беларуси»

**В середине ноября 2009 года АПБ успешно завершила двухлетний проект международной технической помощи по разработке факультативного курса для учащихся средних школ и внешкольных учреждений «Дикая природа Беларуси». Данный курс предназначен в первую очередь для школьников 7-8 классов, собирающихся посвятить себя изучению и охране родной природы, и содержит в основном информацию, не включенную в курс общеобразовательной программы обучения.**




Курс разрабатывался совместно с Министерством образования и Министерством природных ресурсов и охраны окружающей среды в рамках проекта «Разработка и внедрение курса о биологическом разнообразии для средних школ в Республике Беларусь», при финансовой поддержке Королевского общества защиты птиц (RSPB, Великобритания), Представительства ООН в Республике Беларусь и датской консалтинговой группы COWI.

В ходе выполнения проекта были проведены обучающие семинары для учителей и методистов Институтов развития образования, посещены учреждения образования, в которых велась апробация факультативного курса (16 школ и внешкольных учреждений), оказана им методическая и консультационная поддержка экспертами проекта, были получены замечания, комментарии от учителей, работающих над апробацией курса.

Результатом совместной плодотворной работы стало издание учебно-методического комплекта «Дикая природа Беларуси», состоящего из учебного пособия для 7-8 классов (на русском и белорусском языках), пособия для учителей и плаката-карты «Особо охраняемые природные территории Беларуси». 20000 таких комплектов было передано в школы по всей республике.

«Появление данного курса будет способствовать тому, что школьники смогут более глубоко и вдумчиво изучать нашу родную природу, познакомятся с ее уникальностью и научатся ее охранять», – заявил Виктор Фенчук, директор АПБ на пресс-конференции, посвященной завершению проекта на базе Экологического информационного центра «Эко-Инфо» Центральной научной библиотеки имени Я. Коласа Академии Наук Беларуси 17 декабря 2009 г.

По словам И.Чульбы, координатора проектов ПРООН, представительство ООН продолжит реализацию проектов, направленных на совершенствование образования в области окружающей среды. Новый проект будет направлен на создание информационно-просветительских центров на базе крупнейших особо охраняемых территорий Республики Беларусь.

**Надежда Лейчонок, координатор проекта**

Ахова птушак Бацькаўшчыны
ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
№4(39)2009-1(40)2010
BirdLife INTERNATIONAL PARTNER

**АПБ з'яўляецца эксклюзіўным партнёрам BirdLife International у Беларусі**

(c) АПБ, 2009 Інфармацыйны бюлетэнь
ГА "Ахова птушак Бацькаўшчыны"
Распаўсюджваецца бясплатна сярод сяброў АПБ
Перадрук дазваляецца пры ўмове спасылкі на бюлетэнь
ГА "Ахова птушак Бацькаўшчыны", АПБ
Галоўны рэдактар: Віктар Фянчук
Рэдакцыйная рада: Кацярына Ціхно (адказны рэдактар), Сяргей Зуёнак, Наталля Парэчына, Руслан Шайкін, Сямён Левы
Выданне падрыхтавана пра фінансавай дапамозе RSPB, партнёра BirdLife International у Вялікабрытаніі
Калі гэты нумар бюлетэня трапіў да Вас выпадкова, а Вы жадаеце атрымліваць яго рэгулярна – далучайцеся да сяброў АПБ.

Для гэтага тэлефануйце або прыходзьце да нас:
вул. Макаёнка 8, пак.313 г. Мінск
тэл. (017) 263-06-13, (017) 263-01-30
факс (017) 265-08-11
мтс (029) 223-06-13,
velcom (029) 101-68-87
e-mail: info@ptushki.org
**www.ptushki.org**

Наш паштовы адрас: а/с 306 Мінск 220050 Беларусь
Пасведчанне аб рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 2714 ад 27.06.2008.
Надрукавана ў УП "Данарыт".
Ліцэнзія ЛП № 02330/0494183 ад 03.04.2009.
Тыраж 1000 паас.
Замова № 6815.